# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1932

СТУДЗЕНЬ

№ 2

1932



У. І. ЛЕНІН і І. В. СТАЛІН у ГОРКАХ. (КАНЕЦ ЛІПЕНЯ 1922 г., з неапублікаванага здымку).

**АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ І ПЭРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ**

# ПАДПІШЫСЯ на 1932

**на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР**

# Чырвоная Беларусь

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА**

## У „Чырвонай Беларусі“ на працягу 1932 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** С. Баранавых, Ул. Барашкі, З. Бядулі, А. Вольнага, Т. Гушчы, Ц. Гартнага, П. Галавача, Даўгапольскага, М. Зарэцкага, В. Каваля, Э. Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Я. Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, М. Чарота, К. Чорнага, Швэйдэля і інш.

**Поэмы і вершы:** А. Александровіча, З. Астапенкі, С. Астрэйкі, М. Багуна, Бацюшкава, Я. Бобрыка, П. Броўкі, А. Звонака, Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, С. Ліхадзіеўскага, М. Лужаніна, Юр. Лявоннага, В. Маракова, С. Нортмана, Ю. Таўбіна, І. Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, М. Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** М. Аляхновіча, Бэндэ, С. Бэрнара, С. Гюгера, А. Вольнага, В. Вольскага, Э. Выхадцава, Ц. Зарэчнага, Б. Мікуліча, Мяжэвіча, Ал. Некрашэвіча, М. Пасьлядовіча, Я. Скрыгана, В. Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера, Ус. Шыдлоўскага і інш.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Волкава, Гаўрыленкі, Заборава, Давідовіча, Кіпніса, Мазэлева, Малкіна, Пашкевіча, Ран, Семянякі, Салавейчыка, А. Тычыны, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць социялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 800 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

на сваіх старонках адлюстроўвае соцыялістычнае будаўніцтва БССР і СССР, практыку герояў пяцігодкі, аддае вялікую ўвагу соцыялістычнаму спаборніцтву ўдарніцтву, соцыялістычнай перабудове вёскі, шырока асьвятляе разгортваньне культурнай рэволюцыі, жыцьцё мастацтва, тэатру, кіно і інш.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | 60 | 1 | 80 | — | 90 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА** усімі агенцтвамі сувязі і лістаносцамі, кнігарнямі ДВБ, аддзелам падпіскі кнігацэнтру ОГІЗ'у РСФСР, усімі яго філіаламі і ўпаўнаважанымі.

Тэлефон рэдакцыі 17-09.

**ЗЬМЕСТ:**

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Адрас рэдакцыі, Савецкая, 59
Тэл. № 17—09.

№ 2

Студзень 1932

Фото Гэ-Гурвіча





ПЕРШЫ САКРАТАР ЦК КП(б)Б т. ГІКАЛО АБРАНЫ НА XIV ЗЬЕЗДЗЕ КП(б)Б

# Пётрык і Пятрусь

Міхась Зарэцкі





1

За Пятрусёвым дваром адразу пачынаецца вялікі колгасны сад, і малому Петрыку досыць узьлезьці ў сваёй пуні на сена і падпаўзьці да шырокае—з цэлае вакно—дзіркі ў старым дашчаным франтоне, каб перад самым сваім носам убачыць крамяныя чырвонашчокія апорты. Петрык—з яго спрытам і адвагаю—мог-бы, вядомая рэч, давесьці свае назіраньні да пэўнага лёгічнага выніку—гэта значыць, пачапіць за франтон вяроўку і спусьціцца па ёй у самыя лоні спакусы, але ў яго ёсьць дзьве прычыны, каб гэта не рабіць: па-першае, хоць тут і глухі куточак сада, а тым часам—ці-ж можна верыць гэтаму крывому Піліпу, зловіць, дык мала ня будзе; па-другое-ж, Петрыкаў бацька, аднаасобнік Пятрусь, колькі раз намякаў яму:

— Глядзі, сукін сын, толькі паткніся куды ў колгаснае—зрэжу на горкае яблыка.

Таму Петрык у вымушанай добрасумленнасьці адмяжоўваецца аднымі пазіраньнямі.

А за апортам блішчыць, аж сьвіціцца, пышны белы наліў, а за налівам—фарсістыя дулі, а праваруч—позныя і праз гэта яшчэ саладзейшыя карабкоўкі, а леваруч—пуцінкі (напэўна ўжо досыць мяккія—есьці можна), а там яшчэ, і яшчэ...

Часам Петрык—проста дзеля пацехі—займаецца такімі разрахункамі: пералічае перш за ўсё, колькі ёсьць у садзе дрэў, што латвей зрабіць яму, седзячы на высокай сьцяне сяньніцы, потым лічыць, колькі грудоў (у яго „груд"—пэўная дакладная мера) колькі грудоў будзе з кожнае яблыны, далей „бярэ на вучот" усіх колгаспікаў і, нарэшце, выводзіць, па колькі грудоў яблыкаў і дуль прыпадзе на кожнага. А дайшоўшы канчатковага выніку, ён сьціскае зубы ад злосьці і цэдзіць скрозь іх чутае недзе ад старэйшых:

— Ато-ж дурны, крый божа... І чаго ён яшчэ чакае?

Гэта так пра бацьку, што ня пішацца ў колгас.

Неяк па канцы лета, седзячы на сваім назорным пункце, Петрык згледзеў у колгасным садзе нязвычайнае ажыўленьне. Цэлая плойма дзяцей і некалькі чалавек дарослых, раптам урынуўшыся ў сад, з тлумам і сумятнёй завінуліся каля дрэў. Паміж чырвонашчокіх апортаў, празрыста-жоўтых антовак, халодна-бліскучых цітавак вырасьлі скурчаныя ад натугі фігуры Сьцёпак, Сёмак, Яськаў, Міхаськаў і іншых Петрыкавых равесьнікаў.

У Петрыка ёкнула сэрца: ён зразумеў, што гэта ўзяліся калаць сад, што зараз ужо зьнікне з яголых вачэй усё гэтае харэство, якое—што-б там ні было—а ўсё-ткі грэла ў яго ў сэрцы нейкую дзіўную бязгрунтоўную надзею.

Петрык увесь абярнуўся ў зірк. Ён ня толькі сачыў за кожным рухам сваіх таварышоў—ён перажываў гэтыя рухі, адчуваў іх у сваім целе, і кожная няўдача, кожны няёмкі выкрут узьнімаў у ім пагардлівае абурэньне.

— Авой, няўмекі, авой, нязграбы! Гэта-ж каб я, дык-бы вунь на тую галінку ўзглабаўся, ухапіўся за тэй вунь сучок, нагой адпіхнуў тую галінку—эх, каб гэта мне туды...

І пякучая злосьць на бацьку сьціскае Петрыкава азьнібелае сэрца, і ўжо ня чутае ад старэйшых, а сваё—дзіцячае, горкае зрываецца з вуснаў:

— Дурны, дурны, вось і ўсё... Хай сабе... Усё роўна дурны, дурны...

У гэты час пад пуню лёгкім трушком, трымаючы ў руках напагатове штанёнкі, падскочыў найбліжэйшы Петрыкаў прыяцель Янка. Петрыкава злосьць адразу абярнулася на няшчаснага Янку, і ён—толькі той пачаў асталёўвацца—сьвіснуў так тонка й прарэзьліва, як адзін толькі ён умеў сьвіснуць з цэлае вёскі. Янка крыкнуў і памкнуўся быў бегчы, але прыстоіў і, пільна ўзіраючыся ў чорную дзірку франтону, нясьмела запытаў:

— Петрык! Гэта ты?

Петрык высунуў галаву і забалбатаў па індычаму:

— Был-был-был-был...

Але тут у галаве ў яго мільгнула раптоўная думка, і ён зьмяніў тактыку.

— Здароў, Янка! Дармо, можна сабе й тут, усёроўна... Яблыкі калоціце?

Янка дзеля ўсякага выпадку зашпіліў усё-ткі штанёнкі і адказаў троху недаверлівым тонам:

— Сам бачыш, чаго-ж пытацца...

— Многа будзе яблык?

— Ого!

Петрык падміргнуў.

— А што, каб гэта я да вас туды, га? Што ты думаеш, Янка?

— Няможна, ты-ж не колгасны...

Аднак яго сухі безапэляцыйны тон ня спыніў Петрыка. З момант падумаўшы, ён прапанаваў:

— А я мог-бы табе нават свой зламаны ножык даць—поўляза яшчэ цэлае. А хоць сікаўку—цераз вуліцу дастае.

Янка, пачуўшы выгодны гешэфт, затрымаўся.

— Чакай, я зараз...

І, скочыўшы за рог, ён праз хвіліну вярнуўся адтуль з гатовай пропозыцыяй.

— І ножык і сікаўку?

Петрык у знак згоды махнуў безнадзейна рукой (ат, прападзі яно ўсё).

У Янкі ўжо быў гатовы плян.

— Я скажу, што ты за нашу Насту. Адно, каб працаваў добра, чуеш? Глядзі ты мне... Ты—сюды?

— Па вяроўцы...

І праз хвіліну Петрык апынуўся ў тым заказаным раі, што праз усё лета дражніў яго палкай нясьцерпкай спакусай.

Гэта было, як у сьне. Ён заблытаўся сярод плоймы дзяцей і ніхто не зважаў на яго, ніхто не гнаў яго з чароўнага раю, ніхто ня крычаў, што ён чужы, што гэты сад не яго. Навакол—і на дрэвах, і на зямлі, і, здавалася, у паветры зьзялі сваёй бліскучай сьвежасьцю барвістыя плады. Ён мог іх есьці, колькі хацеў, ён мог каштаваць па чарзе ўсе так дасканала вывучаныя ім здалёк гатункі. Ён нават мог, пакаштаваўшы, кінуць недаедзенае, калі не да смаку—так і рабілі іншыя, — але ён усё-ткі ня важыўся: хоць каторае і ня зусім падабаецца, а зьесьць да канца, да самых зернятак.



Малюнкі А. Забароза

А як шчыра, як самааддана ён працаваў! Ён узлазіў на самыя верхавінкі, пераскакваў, як вавёрка, з галінкі на галінку. Ад яго не ўця-

каў ніводзін яблык, ніводная дулька. Нават стары, крывы на адно вока, сторож Піліп колькі раз пахваліў яго нязвычайны спрыт, ня ведаючы, мабыць, што хваліць чужога тут зусім, які злоснымі хітрыкамі пралез сюды,аднаасобніка.

Потым зьбіралі яблыкі, зносілі ў места. Вырасталі пышныя пераліўчастыя груды, ад якіх ішоў зусім новы—густы, мядовы пах. Петрыку груды здаліся значна большымі, чым ён дасюль уяўляў, і ён ужо меркаваў, што, мабыць, ня прыдзецца кожнаму па столькі грудоў, па сколькі ён быў прызначыў. Ён з нецярплівасьцю чакаў, пакуль нарэшце пачнуць шчасьлівыя колгасьнікі дзяліць накалочаныя яблыкі.

Аднак не дзялілі зусім—ні яблыкаў, ні дуль. Прыехалі на конях колгасьнікі і пачалі перавозіць яблыкі ў агульны колгасны сьвіран.

Гэта Петрыку дужа ўпадабалася. Ён, праўду сказаць, чакаў тэй дзяльбы з захаваным страхам. Па-першае, маглі-б яго тады выкрыць і, зрабіўшы яму страшнае жорсткае запытаньне—а ты чаго тут?—выгнаць з чароўнага раю. А па-другое, каму-ж прыемна глядзець, як іншыя аграбаюць такое неверагоднае багацьце, а самому тым часам стаяць у баку ды разам з абрыдзелым раптам яблыкам давіцца горкімі сьлязьмі?

Шчасьлівы Петрык цяпер адчуваў сябе цалкам роўным з усімі і нават продэмонстраваў гэта тым, што ўрачыста пад'ехаў на колгасным кані а-ж да самых варот саду.

Вярнуўся Петрык дахаты, як ужо клаліся спаць, і злосны Пятрусь сустрэў яго ласкавым запытаньнем:

— Пагуляў трошку, сынок?—

Што вешчавала Петрыку самыя горшыя няпрыемнасьці.

І праўда, ня ўправіўся ён яшчэ і зманіць, што „нечага ў школу ўсіх вучняў зьбіралі“, як у Пятрусёвых руках зьявілася дзяга, і зараз-жа пачалася экзэкуцыя.

Петрык плакаў так проста, дзеля прылікі, чыста з дзіцячай традыцыі. Ніколі яшчэ з такім лёгкім сэрцам ня зносіў ён свае „няпрыемнасьці“, як сёньня. Ці дзіва? Ён-жа меў сабе гэтулькі спацяшэньняў. Па-першае—было за што, па-другое—усё роўна ў колгасным садзе ён ужо пабыў—хоць як-бі, дык гэтага ня вернеш, а па-трэцяе—каб бацька ведаў „усё“, дыкбы ня гэтак біў. О, каб ён ведаў!

Як і заўсёды, пасьля „няпрыемнасьці“ Петрык у знак протэсту падлез пад лаўку і, як заўсёды, хліпаў там доўга і жаласна, але ў гэты самы час з спакойным сэрцам і глыбокаю асалодаю бачыў перад вачмі вялізныя пераліўчаста-бліскучыя груды яблыкаў, такіх яблыкаў, якіх „ён“ (у падобных выпадках Петрык заўсёды зваў бацьку „ёнам“)—якіх ён можа ніколі і ў вочы ня бачыў.

У Пятруся сэрца было адходлівае. Як Петрык добра ўжо надакучыў яму сваім хліпаньнем, ён зьвярнуўся да яго з няддайнай паблажлівасьцю:

— Ну, сьціхні ўжо, дурань... Нешта дам табе зараз...

І Петрык, убачыўшы, што бацька і сапраўды пашоў у сенцы, сьціх адразу і настаражыўся.

— Што ён дасьць?

Бацька прынёс яму вялізны чырвонашчокі апорт.

Петрык аслупянеў. Ён адразу пазнаў яго, гэты цудоўны яблык. Такія маглі быць толькі там, у колгасным садзе!

Ён парыўчата схапіў з бацькавых рук яблык, пасьпешна абгледзеў яго з усіх бакоў, ёмка скрывіўшыся, упусьціў у яго свае вострыя зубы і звонка сербануў набеглы сок.

— Тое!

І малому Петрыку стала раптам крыўдна. Яго чароўная таямніца адразу страціла палавіну свае прывабнасьці, і ўспамін пра бацькаў ушчунак паўстаў перад ім ужо куды ў гарчэйшым выглядзе.

Ён схаваў яблык у кішэню з цьвёрдым замерам выкінуць яго вон.

## 2

Назаўтрага Петрык быў ужо хітрэйшы. Ён вярнуўся з саду куды раней, чымся ўчора, і скрозь, да самай начы, стараўся так рабіць, каб зарэкомэндаваць сябе перад бацькам з найлепшага боку. Пятрусь быў ім цалкам задаволены і даў яму зноў яшчэ большы і яшчэ чырванейшы яблык. Петрык—хітрук—прыкінуўся, што дужа рады.

А была ў яго, выходзіць свая асаблівая захаваная мэта...

Сёньня былі занятыя колгасныя коні, і груды накалочаных яблыкаў асталіся на нач у садзе. А дзеля таго, што іх было многа і ляжалі яны ў розных канцох саду, а сторож Піліп быў адзін ды яшчэ і з адным вокам,—выклікалі былі з хлопцаў ахвотнікаў начаваць гэтую ноч у садзе, памагаць дзеду Піліпу вартаваць яблыкі. Ясная рэч, што ахвотнікаў знайшлося досыць і што найахвотнейшы з усіх ахвотнікаў быў Петрык, хоць ня меў ніякага дачыненьня ні да колгасу ні да колгасных яблыкаў.



І вось, як падышла пара класьціся спаць, Петрык, мякка падлабуніўшыся да бацькі, папрасіўся, каб яго пусьцілі сёньня спаць на сена (у хаце горача, а ноч такая цёплая-цёплая, як нагрэтая). Расчулены сынавай ласкай і слухмянасьцю, бацька згадзіўся, і Петрык, горда выступаючы з хаты, неўзаметку захапіў з сабой вяроўку.

Было весялей яшчэ, як на начлезе. Хлопцы расклалі сярод саду агонь, бегалі вакол яго, скакалі, як чарцяняты, крычалі, пелі і бясконца хрусталі яблыкі. У дрыготным, паклычаным, перамяшаным з цемраю сьвятле яблыкі былі зусім інакшыя—цёмныя, кашлатыя, таемныя. Дзеці знайшлі сабе гульню: паказвалі здалёку яблык—адгадай, які?—і тады правяралі пры агні з заўзятасьцю азардоўных гульцаў. Прабавалі таксама яблыкі пячы, адылі пераканаліся, што сырыя смачнейшыя.

Раз-па-раз хлопцы па чыёй-небудзь раптоўнай звонкай каманде разьбягаліся ў розныя бакі на чарговы вартаўнічы абход, але кожны лічыў. каб трымацца бліжэй да суседа і, зьнячэўку стыкнуўшыся ў цемры, сударгава хапаліся адзін за аднаго і калаціліся са страху.

Ужо добра па поўначы дзеці змарыліся і паціхлі. Тады вылез з свае саламянае будкі дзед Піліп—аспалы, пахмуры як мядзьведзь—падышоў да агня і, смачна кракта ўшы спрасонку, закурыў піпку.

— Ну, цяпер ідзіце ўжо спаць—я буду сьцерагчы. Марш у будку... Ну?

Спаць у дзедавай будцы—гэта-ж не абы-што якое. Не чакаючы далейшых запросін, хлопцы шмарганулі, як адзін, у той бок, дзе стаяла гэтае знатнае памяшканьне і піскам, енкам затаўкліся ў дзьвярох.

Петрыку ўлезьці ў будку неяк ня ручыла, і ён, працуўшыся глыбокай пагардай да шчасьлівейшых таварышоў, падумаў:

„Эх, вартаўнікі! Навартуюць, тухнучы ў будцы... Сама такіх у сад пускаць абібокаў“...

І ён, набраўшыся адпаведнай важнасьці, узапнуў на сябе сваю начлежную „пару“ і, перамагаючы страх, адышоўся крокаў за дваццаць ад будкі, дзе і лёг пад вялізным кустом агрэсту.

Петрыку ня спалася: ён глядзеў на зоркі і лятуцеў. Ён думаў пра тое, якімі спосабамі латвей абярэгчы сад ад зладзеяў. Можна, вядома, абгарадзіць высачэзным плотам і панаторкаць угары цьвікоў. Гэта занадта проста, ды й дзе ты цьвікоў гэтулькі набярэшся. Можна таксама выкапаць з гэтага боку глыбокую канаву і ў яе вады наліць, а хоць панабіць ражэньня, як, казалі, на ваўкоў робяць. А найлепей, дык гэта ўзяць даўгую нітку, абвесьці яе вакол усяго саду, а канцы—у будку ды да званка. Як наткнецца каторы, званок—дзын—і гатова... А так—дзе ты яго пачуеш.



Адылі Петрык пачуў і без званка. Зусім блізка ад яго нехта зашамацеў, і зараз-жа Петрык пачуў выразны гук перасыпаных яблыкаў.

Сэрца ў яго зайшлося ад страху. Першая думка ў яго была—ці добра схаваўшыся ён пад кустом, ці ня тырчаць дужа далека ягоныя ногі. Але зараз-жа ён зьмеркаваў, што баяцца яму няма чаго, што ён заўсёды, калі трэба, управіцца закрычаць, а пакуль усё спакойна, ён можа нават пацікаваць, хто гэта там шамаціць.

Злодзей быў, пэўна, зусім дурны, бо да кучы, з якой награбаў ён яблыкі, далятлі водблескі агня і асьвятлялі ўсю яго постаць. Петрык зусім асьмялеў і падпоўз бліжэй. Прыгледзеўшыся добра, ён пазнаў дзеда Піліпа і з уласьцівай яму паслужнасьцю хацеў ужо быў аказацца і памагчы старому парадкаваць яблыкі. Але тут ён згледзеў у руках у старога мяшок, і гэта яго затрымала.

Дзед спакойна насыпаў мяшок, як панесьці, старанна завязаў хахол і, устаўшы з зямлі, паспрабаваў, ці цяжка. Тут Петрык удругае мала ня зрадзіў сябе, бо яму страшэнна захацелася падбегчы да дзеда і падсобіць на плечы. Але ён ізноў стрымаўся. З нечаканым спрытам і сілаю дзед Піліп усхапіў на плечы мяшок і нізка сагнуўшыся, пацягнуўся садам.

Петрык, апрача таго, што палахлівы, быў яшчэ бяз меры цікавы, а таму—хоць-бы й хацеў, ён ня здолеў-бы ўжо ўтрымацца, каб не падгледзець, куды дзед панёс яблыкі.

Абагнуўшы цяньком асьветленае кола, дзед Піліп завярнуў пад той бок, дзе была іхная, Пятрусёвых, сяліба. Гэта яшчэ больш заінтрыгавала Петрыка і разам з тым надало яму большай адвагі: усё-ткі бліжэй да хаты.

Вось чорнай расплыўчатай плямай вырасла перад вачмі іхная пуня—Петрыкаў назорны пункт. Тут дзед троху збочыў і падаўся туды, дзе высокі шчыкот адгароджваў колгасны сад ад іхнага гароду. Прайшоўшы крокаў з дваццаць пад самым шчыкотам, дзед раптам суняўся і асьцярожна спусьціў на дол сваю ношку. З хвіліну ён стаяў нярухома, прыслухваючыся, потым сьціха гукнуў:

— Пятрусь, дзе ты там?

І зараз-жа шпаркімі пасьпешнымі крокамі падаўся ў глыб сада. На тым месцы, дзе стаяла яго грамоздная фігура, Петрык убачыў цёмна-шэрую пляму выбранага ў шчыкеце прахону.

Ён зразумеў усё. Доўга не разважаючы, ён—нібы хто яго падштурхнуў—кінуўся да мяшка і ўцупіўся ў яго сваімі слабенькімі, дрыжачымі ад страху і яшчэ ад нейкага няяснага, але дужа моцнага пачуцьця, рукамі.

З таго боку за мяшок узяліся даўгія бацькавы рукі. Петрык напяў усе сілы і, трымаючы мяшок, прапішчэў:

— Татка! Гэта—колгасныя...

Бацькавы рукі адарваліся ад мяшка, як апечаныя, але зараз-жа ўзяліся за яго нанова. Здушаны злосьцю голас прасіпеў з-за шчыкета:

— Петрык, сукін сын, што ты тут робіш?

Замест адказу Петрык прапішчэў зноў сваё:

— Гэта—колгасныя... Татка...

І ён як мага трымаўся за мяшок. Пятрусь толькі цяпер зразумеў, што гэта ён трымае мяшок, і, рвучы мяшок да сябе сыкнуў з бязьмернай лютасьцю:

— Пусьці шчанё... Пусьці, табе кажу...

Петрык цягнуўся ўсьлед за мяшком

— Ня пушчу... Гэта—колгасныя...

Раптам ён пачуў, што на тым месцы, дзе расьце ў яго левае вуха, загарэўся несьцерпна-пякучы агонь. Ён добра ня ўцяміў яшчэ, што гэта значыць, як агонь гэты ўпіўся яму ў самае нутро і апаліў яго вострай нястрымнай злосьцю. Забыўшыся на ўсё на сьвеце, амаль няпрытомны, ён закрычаў на ўсё горла—дзікім прарэзьлівым крыкам, які жудасна пераццяў глухую цішыню соннага сада:

— Зло-о-дзей...

Пятрусь выпусьціў з рук і мяшок, і сына, і яны абое кaршнём адкаціліся ў сад.

Ля будкі ўзьняўся страшэнны амбарас. Спалашоныя раптоўным крыкам хлопцы паўскаквалі з месц і, асалапелыя, кідаліся ўва ўсе бакі, ня ведаючы, што рабіць. Нарэшце нехта даўміўся—схапіў галавешку і пабег з ёй у той бок, адкуль прыляцеў жудасны крык. Сьледам за ім падаліся іншыя.

Петрык з хвіліну ляжаў нярухома, прыціснуты мяшком, і, ашаломлены, амаль не разумеў, што гэта сталася. Потым пачуў тлумныя дзіцячыя галасы, якія шпарка набліжаліся да яго, і агнёвы страх страсянуў яго. У сударгавых патугах выкараскаўся ён з-пад мяшка і кінуўся ў бок, ня ведаючы—куды, ня ведаючы—чаго.

Праз колькі хвілін яго знайшлі нездалёк ад мяшка: ратуючыся ад свайго дзікага страху, ён убіўся галавёнкай у нейкі шчытны калючы куст, а ўсё яго дрыжачае тулава й ногі ляжалі адкрытыя на траве. Яго паднялі і павялі да агня, хорам распытваючы, што з ім здарылася.



Петрык не адказваў на запытаньні—адно хліпаў і ўсё лапатаў, як няпрытомны:

— Я не пайду да хаты... Я баюся... Я ня хачу... Я не пайду... не пайду...

З левага вуха ў яго сачылася густая і зусім чорная ў змроку кроў...

Зьмітро Віталін

## ЗЯМЛЯНКА

Зямлянка, ты цяпер адна
ў пасёлку новенькім
фабрычным.
Няхай хутчэй прыдзе вясна—
І мы тваё сатром аблічча...

Пусьці-ж мяне
к сабе на ноч,
Я хачу ўспомніць, што мінула...
Дваццаты голы быў, як нож,
І ты дала сям'і прытулак...

І шанавалі мы цябе
Ад вохкіх сьцен
да нізкай столі,
Адкуль заўсёды быў капеж,
Які прастромліваў да бою...

Ды сьлепата вакна, ў якім
Адна-аднэю стыгла шыба,
Зямля—падлога,
прусакі,
Што бегалі ў запеччы шыбка,
І холад, ад якога зуб
Не пападаў на зуб,
і голад,—
Усё прайшло
і новы зруб
Узрос прасторным і вясёлым.
Даўно пакінулі,
даўно
Цябе,
а ты яшчэ сядзіш тут
Як на вачох чыіх бяльмо,
І выгляд твой такі сярдзіты...
Ня злуй, старэнькая, пакінь!
Твой век абвалены, як сенцы,
Калі ліхія прусакі
Назольна казыталі сэрца...
Мы перайшлі ў новы дом
Пасёлку—„Сад“,
дзе пасадзілі
Расьці здароўе, маладосьць
І нашу радасную сілу.
Вось толькі ты яшчэ адна
Ў пасёлку новенькім
фабрычным.
Няхай хутчэй прыйдзе вясна—
І мы тваё сатром аблічча.

г. Мозыр 1931 г.

# КОМСАМОЛЬСКАЯ УДАРНАЯ

Янка Скрыган

НАРЫС

— Таварыш Каган, гэтакіх машын прапусьціць нельга. Лопнуць. На першым тыдні ў рабоце стануць нягоднымі.

Каган ідзе з Пракаповічам на выпрабавальную. Маторы гудуць цэнтрабежнаю сілаю. У гудзе, у цэнтрабежнай сіле дрыжаць сваім чыгунным целам сіласарэзкі робячы 1.200 крутхоў у хвіліну. З крайняе скінуты пас, матор выключаны і, прыгнуўшыся пад патрубак, чалавек нечага шукае ў раме.

— Нельга пусьціць яе!—кажа Пракаповіч.—А вунь яшчэ чатыры стаяць. Куды гэта варта... якасьць такая. І сёньня дамо толькі дваццаць восем.

З-пад патрубка выпроставецца Купрыянчык. У руцэ ён трымае лупу і гэтаю-ж рукою загладжвае скінутыя на лоб валасы.

— На, паглядзі сам.

Па прывычцы Каган вымае штангель, але скоранька адумаецца і бярэ лупу. Але пад падшыпнікам на раме малюсенькая шчылінка. Вось яна відна праз лупу—цягнецца ўпоперак танюсенькім валаском.

— Няўдала недзе выцялі,—кажа ён.

— Бач, ледзь відна, а ў рабоце—лопне ўся рама,—Купрыянчык зноў прысядае, а Каган ужо скубе пальцамі шчаку.

— Значыць, пяць штук браку?

— Я-ж кажу, дамо толькі дваццаць восем. А ў тых вунь, хадзі паглядзі, брак дала твая брыгада. Трэба нанава перастаўляць кажухі.

Недзе з надворку вынырае Піліпёнак. Ён ужо нагінаецца над машынамі, засланяючы іх шырокімі плячыма і тлустымі зборкамі на патыліцы.

— Трэба прапусьціць,—гаворыць ён яшчэ трымаючы руку на машыне. Але сустракаецца з Каганавымі вачыма і скоранька здымае руку хаваючы яе ў кішэні.

— Нельга, таварыш Піліпёнак. Яны зразу выдуць з работы. Так прапусьціць—значыцца выкінуць машыны на глум.

Піліпёнак гаворыць паволі, голасам роўным, падобным да мэталёвага звону. Машыны трэба прапусьціць. Рама—трымаецца. Грэюцца падшыпнікі? Б'е ў бакі дыска? Глупства! Пры рабоце стане на месцы. А на падшыпнікі—проста, трэба больш даць заліўкі.

Але комсамольцы спрачаюцца. Выпрабавальная станцыя таксама хоча даць норму, але толькі ня оракам. Купрыянчык дае Піліпёнку лупу. Пракаповіч падымае сіласарэзкавы кажух, каб паказаць, як б'юцца лопасьці аб раму.

— Я адказваю, і я загадваю прапусьціць!—ужо падвышае голас Піліпёнак, і мэталёвы звон пачынае фальшывіць.—Я паказваў і Фэльдману, тут браку няма.

— Мы таксама адказваем, і мы не прапускаем.

Купрыянчык прыкусвае губу і, каб Каган ня бачыў, што ён хвалюецца—зноў папраўляе валасы, закрываючы рукою твар. Пасьля ён паказвае лупаю на сіласарэзкі.

— Нясеце запіску... Давайце комісію ці заводакіраўніцтва з вашым Фэльдманам, і давайце запіску, што вы прапускаеце! Вы-ж кажаце, што адказваеце! Давайце дакумант!

У Піліпёнка тузаецца тоўстае плячо. Ён зноў хоча падвысіць голас, але паварачваецца і порстка выбягае з цэху. Каган яшчэ раз нагінаецца над машынамі, каб вывучыць брак і расказаць пра гэта брыгадзе. А калі выпрастаўся, каб запытацца нечага ў Купрыянчыка—хлопцы зноў ужо былі на выпрабавальнай станцыі каля сваіх матораў. Сіласарэзку з лопнутаю рамаю адвозілі ў бок.

Піліпёнак ня прынёс запіскі ні ад сябе ні ад заводакіраўніцтва. Бяз права на пашпарт, забракованыя машыны сталі ў боку. Машына таксама можа перажываць. І чалавеку нядобра глядзець на маўклівую горнасьць машыны, на нямую пакрыўджанасьць яе, бо віна за гэта нямое бясправўе кладзецца на чалавека.

Цэх жыве бесьперапынным патокам зборкі. Патокам, са зборкі, машыны ідуць на выпрабавальную станцыю. Пад маторы становяцца новыя машыны, каб атрымаць пашпарт—права на бытнасьць—контрольны нумар. Забракованыя машыны стаяць. Яны выйшлі з патоку і нанава ў паток ім уключыцца нельга. Значыць—бяз права. І графік праз іх апускаецца на пяць градак уніз.

2

Рабочы дзень зборнікаў кончыўся і паток бяз людзей здаецца пустым. У канцы залі гудзе толькі выпрабавальная станцыя. Пад маторы становяцца апошнія машыны.

— Хлопцы, а як з тымі?—Мінін паказвае на пакрыўджаныя машыны паклю, аб якую выцірае зашмальцаваныя мазутаю рукі.

— А нам што да таго,

— А я думаю—пусьціць,—гаворыць Купрыянчык, укручваючы новую масьлёнку ў верхні падшыпнік.

— Як—з бракам?

— Бяз браку—паправіць.

— Гэта ня наша работа і патакаваць такой продукцыі мы ня будам. Ня прымем—другі раз старацьмуцца самі, каб не даваць такога барахла,—невялікі з голенаю галавою хлапчына зноў хаваецца пад сіласарэзку, адкуль быў высунуўся, каб падаць свой голас.

Мінін доўга выцірае рукі і па тым, як блытаюцца пальцы ў паклі відаць, што ён трохі хвалюецца. Купрыянчык глядзіць на адвезеныя ў куток машыны. Рука на масьлёнцы застыла, забылася, але няёмкую напружанасьць перабівае доўгалыгі Стась.

— І праўда—чаго лічыцца. Ня наша работа... А хіба мы падвярэдзімся, калі па гадзіну затрымаемся. І дамо чатыры машыны. Лопнутая няхай пачакае на аўтаген, а гэтыя чатыры мы можам паправіць сьмела.

— Давай, хлопцы!

Недзе з цэху паказваецца з новаю дэталлю Пракаповіч. Яго белыя няроўныя зубы скаляцца яшчэ здалёк.

— Стаў пад работу! Правільна! І дамо трыццаць дзьве!.. Хадзем падкочваць!

— А я не магу. Заняты. Я канчаю,—і чалавек паварачваецца сьпіною ідучы да вакна складаць струмант. Голеная галава зноў вылазіць з-пад сіласарэзкі і, грукнуўшы малатком па шківу, таксама ідзе да шафкі.

— Кончана! Гэта работа зборкі і я не хачу падціраць чужых хвастоў.

— Ты можа глядзіш на мяне?—шырокаплечы хлопец падыходзіць зноў, выціраючы пакляю рукі.—Дык мне патрэбна, а ты мог-бы астацца.

— Сам знаю.

— Ну, ладна, восем чалавек асталося—па два на машыну. Давайце!

3

У Каганскага няма часу. Яго выклікаюць у гарком і, перад тым як ісьці, яму трэба падрыхтаваць матэрыял... Але прышлі от хлопцы, і дзе ты, што зробіш? Кожны па свойму мае нешта сказаць, а Каганскі-ж ня Юлі Цэзар, каб разам і слухаць і рабіць сваю работу.

— Слухай, Каганскі.

— Ну, ну?

— Ды кінь ты нукаць, дай пагаварыць хоць толкам!

Каганскі перастае поркацца ў паперах, хоць адна рука астаецца яшчэ ў шуфлядзе. Але левым локцем ён ужо ўсьперся оа стол, каб слухаць.

— Мы гаварылі ўжо нават з бухгальтарам з трэсту. Ён паможа зрабіць нам усё да канца. Трэба брыгадзе перайсьці на гаспадарчы разрахунак. Толькі ня так, як да гэтага, а сур'ёзна. Няма чаго глядзець на другіх.

— Дык я-ж не пярэчу.

Мінін бярэ са стала канцылярскую шпільку і пальцы пачынаюць па-маленьку шпільку разгінаць.

— Ня ў тым справа. Паўстала сур'ёзнае пытаньне—пад чыім ведамам працуе брыгада і ад каго яна больш опэрацыйна залежыць? Пад контрольным аддзелам, па-мойму, нам нечага быць.

Каганскі вымае з шуфляды руку і абодвы локці кладуцца па стол: Цяпер ужо відно, што Каганскі думае гаварыць

сур'ёзна. Вядома, гэта трэба падумаць. Купрыянчык з Пракаповічам падсоўваюць бліжэй крэслы і ўвесь перапынак на полудзень заняты ў сакратара комсамольскага колектыву.

А ўвечары, пад электрычным сьвятлом, брыгада сабралася на сваёй-жа выпрабавальнай станцыі. Чалавек з трэсту, на струментальным століку, разлажыў свае проекты. Ён зараз пакажа брыгадзе ўсё яе гаспадарчае аблічча ў лічбах, у плянах—нарысуе брыгаду ў пэрспэктыве агульна-заводзкае сыстэмы так, каб яна была самастойным гаспадарчым камком на фоне плянавае вытворчасьці ўсяго заводу. Але перад гэтым трэба вырашыць тое, пра што гаварылася з Каганскім. Па якой лініі ідзе опэрацыйная сувязь брыгады з заводам? Па лініі контрольнага аддзелу? Можа быць няўвязка. Контрольны аддзел не мае функцыі непасрэднае вытворчасьці—ён носіць функцыі яе праверкі, пачынаючы ад кожнае дэталі і канчаючы гатовай машынаю. Купрыянчык'авы рукі адціскаюць кішэні рабочага палітончыка. Кароткая цень ад косае лямпы кладзецца на падлозе каля самых ног.

— Нам пад контрольным аддзелам быць нязручна. Мы канчаем продукцыю зборачнага цэху, і нам трэба да яго і перайсьці.

— Контрольны аддзел ня згодзіцца.

— Піліпёнак ваяваць будзе—не аддасьць.

— Будзем хадайнічаць. Пойдзем у заводакіраўпіцтва.

— Правільна. І пакажам, што інакай ня можа і быць, калі...

— І на буксір калі што, дык лягчэй браць будзе...

Чалавек з трэсту разгортвае паперы. Ён раней гаварыў з актывам брыгады і плян яго складзены з разьлікам гаспадарчае сувязі, менавіта па лініі зборачнага цэху. Ён сам раіў такую опэрацыйную сувязь. І вось ён разгортвае паперы, каб лічбамі паказаць усё гаспадарчае аблічча брыгады. Акулярамі ён водзіць у паперах, як-бы падаючы лічбам нейкую папярэднюю сваю каманду. Пасьля нечага шукае ў кішэні. Хочацца запусьціць за шчокі дымку, „Норд" вышаў і ён пазычае ў комсамольцаў „№ 4".

Пасьля Каганскага зноў зарыпалі дзьверы. Сёньня зьлёт усяго комсамольскага колектыву за горадам, на Мельнікавым лузе, і, каб не рассыпацца—заходзяць да Каганскага. У пакоі дым, галасы, спрэчкі. У кутку на стале расьсеўся гурт весельчакоў і праз усю шумлівую гурму чуцен іхні ўзрыўны рогат. Каганскага таксама абступілі. Комсамолец з лінейкаю нешта расказвае пра Аграната. Сьмяючыся Каганскі круціць папяроску—звоніць тэлефон—ён бярэцца за трубку, а папяроса так і астаецца насьліненаю каля губ.

— Што? Алё! Ціха вы, дайце паслухаць! Што?

Дзе там пачуеш у такім гармідары. Каганскі вешае трубку і канчае круціць папяросу.

Раз-по-раз скрыпаюць дзьверы. У пакоі робіцца цесна. Галасы мяшаюцца з духатою, з дымам, з тупаніною.

— А трэба будзе, хлопцы, усыпаць, работу раскрытыкаваць як сьлед.

— Сталінава прамова гаворыць ясна... А гэта сабатаж. Рэалізавана паўтары рабочых прапановы. Об'ектыўная кабылка...

— Паслухаем, як закоціць нам дырэктар сваё справаздачнае папурры.

На зьлёце цэнтральнае пытаньне—Сталінава прамова і конкрэтныя задачы заводзкага будаўніцтва ў новых абставінах. От сёньня і рабіцьме даклад дырэктар па рабочых прапановах, Лысенка. І ўжо загадзя вядома, што на гэтай дзялянцы нічога ня зроблена. Рабочая думка закопана недзе ў дырэктара ў справах. Дырэктар ня ведае новых абставін, на тое, каб у гэтых новых абставінах, па-новаму і кіраваць. Прывычная габінэтная павольнасьць і непаваротлівасьць... І ў цівілі габінэтаў разам з дырэктарам прэюць і рабочыя прапановы. Гэта ня спадчына, а проста няўмельства, гурайства.

— Так, будзе сёньня гаворкі. А работа яшчэ больш... Ну, давайце парушым.

На прыстані чакаюць ужо дзьве вялізных маторных баржы. Сож цяжка дыша разагрэтымі сонцам грудзьмі. З глухім клёкатам баржы адпіхваюць бераг і асядаюць у воду па брыль. На парэдняй разьліўся на воду гармонік і паплыў разам з баржаю пакідаючы з заду горад. Плаўкае сонца сочыцца ў Сож. І ў сонечнай смазе—за пяскамі, за пляжамі—сінім дубняком стаў наказвацца Мельнікаў луг.

# ЗА ТЭХНІЧНУЮ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ СССР

**Харкаўскі паравоза-будаўнічы завод імя Комінтэрна апрача паравозаў вырабляе дызэлі.**

**На здымку: Выпрабаваньне закончанага зборкай дызэля.**





**Верфь „Красное Сормово" дасьць у 1932 г. 47 суднаў.**

**На здымку: Новыя таварныя параходы з устаноўленымі на іх магутнымі пад'ёмнымі кранамі.**



Прэзыдыум зьезду

# XIV зьезд КП(б)Б

23 студзеня 1932 году распачаў працу XIV зьезд КП(б)Б. Партыя бальшавікоў Беларусі прыступіла да падвядзеньня вынікаў пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі і намячэньня пляну на чацьверты заключны год першай пяцігодкі. Пролетарыят мае ўсе даныя для перамогі. Аб гэтым рапартавалі зьезду ўдарнікі фабрык, заводаў і соцыялістычных палёй, запэўнялі зьезд у тым, што выканаюць плян на 1932 г.

Ні адна з капіталістычных краін, на працягу свайго існаваньня ня мела такіх пераможных посьпехаў у будаўніцтве, як СССР. Правадыр нашай партыі тав. Сталін на XVI зьезьдзе УсеКП(б) у політсправаздачы ЦК падкрэсьліў, што сусьветны капіталізм знаходзіцца на шляху далейшага паглыбленьня і абвастрэньня экономічнага крызісу. Калі ў нас, у СССР—узрастаючы ўздым соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, то ў іх, у капіталістаў—узрастаючы крызіс і ў прамысловасьці і ў сельскай гаспадарцы. Экономічны крызіс у краінах капіталу расьце і паглыбляецца з дня на дзень. З катастрофічнай сілай расьце армія галодных, пазбаўленых працы рабочых. Зараз ва ўсіх капіталістычных дзяржавах налічваецца да 40 млн. беспрацоўных. Адначасова расьце рэволюцыйны ўздым пролетарыяту ў капіталістычных краінах, пад кіраўніцтвам нашых брацкіх комуністычных партый і Комінтэрну.

Гэта адбываецца ў краінах капіталу.

Зусім іншае становішча ў нас у СССР.

У трэцім рашаючым годзе пяцігодкі мы пераможна пабудавалі фундамант соцыялістычнай экономікі. Мы прышлі да чацьвертага году пяцігодкі з вялікімі дасягненьнямі, як у прамысловасьці, так і сельскай гаспадарцы. Калі валавую продукцыю прамысловасьці БССР 1926-27 гг. прыняць за 100, то к 1931 г. яна вырасла на 179 проц.

Мы дабіліся значнага тэхніка-экономічнага пераўзбраеньня нашай прамысловасьці. Фонд капіталаўкладаньняў асноўнай нашай прамысловасьці ў 1928-29 гг. складаў 68.416 тыс. руб., а за чатыры гады—275.390 тыс. руб. На працягу трох год пяцігодкі ўступілі ў эксплёатацыю цэлы рад буйнейшых прадпрыемстваў ня толькі рэспубліканскага, але і саюзнага значэньня, як Белдрэс, Гомсельмаш і г. д.

Вось паказчыкі таго, як выконваліся дырэктывы XIII зьезду КП(б)Б у сэнсе разьвіцьця нашай прамысловасьці.

За мінулы год мы мелі і значныя прарывы і недахопы, і асабліва там, дзе дрэнна праводзіліся ў жыцьцё 6 умоў тав. Сталіна, дзе слаба мэханізаваны вытворчыя процэсы.

Улічваючы вопыт і практыку першых гадоў пяцігодкі, на аснове дасягненьняў 1931 г. мы і вызначылі прамфінплян на 1932 г. У чацьвертым годзе пяцігодкі валавая продукцыя прамысловасьці павінна складаць 492.422 тыс. руб. Вызначана капіталаўкладаньняў на 1932 г. у 87,5 міл. руб. і павышэньнем продукцыйнасьці працы на 22 проц.

1932 год павінен быць годам рэзкага паляпшэньня якасьці работы, разьвіцьця яшчэ больш высокіх тэмпаў, падрыхтоўкі неабходных умоў для выкананьня другой пяцігодкі, ператварэньня яшчэ больш шпаркімі тэмпамі БССР у краіну індустрыяльна-аграрную. Вядучай галінай разьвіцьця прамысловасьці БССР зьяўляецца энэргетычная база—торфаздабыча, будаўніцтва электрастанцый, тэхнічнае пераўзбраеньне народнай гаспадаркі.

Разам з посьпехамі ў галіне прамысловасьці мы дабіліся вялікіх дасягненьняў у сельскай гаспадарцы. Гэтыя дасягненьні ў першую чаргу выяўляюцца ў магутным росьце колектывізацыі, у рашучым павароце бядняцка-серадняцкіх мас на шлях соцыялізму.

Калі на 1 лістапада 1928 году было толькі 0,7 проц. колектывізацыі, то на 20 сьнежня 1931 г.—50,3 проц. Гэта генэральныя паказчыкі правільнасьці лініі нашай партыі.

За час з XIII зьезду мы маем значнае павышэньне росту і ролі саўгасаў у соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Калі пасеўная плошча саўгасаў у 1928 годзе складала 41.600 *га*, то ў 1931 г.—115.000 *га*, а на 1932 г. намечана 250.000 *га*.

Поруч з павышэньнем росту і ролі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі расьлі і капіталаўкладаньні ў сельскую гаспадарку. Так, калі ў 1930 г. мы затрацілі 42.123 тыс. руб., то ў 1931 г.—77.844 тыс. р., а ў 1932 г. мы намячаем 165 млн. руб. Асабліва вялікае месца ў капіталаўкладаньнях вызначаецца росту машынізацыі сельскай гаспадаркі. Калі да XIII зьезду была адна МТС, то зараз налічваецца 1.900 трактараў. На 1932 г. намечан ахоп усіх раёнаў машына-трактарнымі станцыямі і давядзеньнем колектывізацыі да 65 проц.

Адсюль задача—саўгасы і МТС павінны ў яшчэ большай ступені адыграць сапраўды вядучую ролю ва ўсёй рабоце па соцрэконструкцыі сельскай гаспадаркі, змагацца за ажыцьцяўленьне цэнтральнай задачы—організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Для таго, каб пасьпяхова справіцца з гэтым, трэба поўнасьцю ажыцьцявіць шэсьць умоў тав. Сталіна ў рабоце МТС, саўгасаў і колгасаў, штодзенна весьці работу па ачыстцы колгасаў ад клясава-варожых элемэнтаў, рашуча весьці барацьбу з правым опортунізмам, з самацёчнымі настроямі ў колгасным будаўніцтве, з „левымі" загібамі і г. д.

Намячаючы пляны на далейшае, падводзячы вынікі практычнай рабоце па рэконструкцыі народнай гаспадаркі XIV зьезд партыі звярачае ўвагу ўсёй пролетарскай грамадзкасьці на важнасьць ідэолёгічнага перавыхаваньня паўпролетарскіх мас і сялянства, пасьлядоўна праводзячы ў жыцьцё ленінскую нацыянальную політыку.

Узятыя тэмпы зусім рэальны!

Неабходна скарыстаць усе магчымасьці і энэргію, забясьпечыўшы парткіраўніцтвам усю работу, на пасьпяховае заканчэньне першай пяцігодкі і складаньне другой.

З такой думкай разьехаліся дэлегаты зьезду па мясцох.

Р. К.

# ВЫКАНАЕМ·ПЛЯНЫ·ЧАЦЬВЕРТАГА

XIV






Фото кіно хронікі БДК і Гэ. Гурвіча

**На здымках:**

1, 6, 7, 9. Прывітаньне вайсковых, часьцей рабочых і фізкультурнікаў.

2, 3. Слухаюць даклад.

4. Сакратар ЦК т. Шаранговіч на трыбуне.

5. У перапынку.

8. Ком. войскамі Белар. ваен акругі т. Уборэвіч.

10. Дэлегаты аглядаюць выстаўку.

11. Магілеўская дэлегацыя.

# ТОДАР КЛЯШТОРНЫ

ГУМАРЭСКА

Я не крытыкую поэты...
Я—ня крытык.
„Я выведаў на сабе, якія яны крытыкі: певень становіцца на адну нагу і кудахтае, што ў песьняра зусім няма душы; індык клохча, што ў яго няма сапраўднай сур'ёзнасьці, галубка варкуе, што ён ня ведае сапраўднага каханьня, гусь гагоча, што ён ня мае навуковых ведаў, каплун крычыць, што ён ня мае страсьці, сьнігір сьвісьціць, што ён нажаль варожы рэлігіі; верабей чырыкае, што ён недастаткова продукцыйны“...

І так—я ня крытык.

Гэта яны крытыкі заблытваюць чытача сваімі рэцэнзіямі аб поэце.

А я заўсёды гатоў быў дапамагчы чытачу сваімі ведамі, тым больш што Тодара Кляшторнага я добра ведаю,—настолькі добра, што аднаго погляду яго вачэй для мяне досыць, каб беспамылкова вызначыць у якую піўную мы пойдзем выпіць з ім па куфлю піва.

Карыстаючыся гэткім добрым веданьнем поэты, я па-першае хачу разьбіць некаторыя крыватолкі, якія ідуць вакол імя Тодара Кляшторнага.

Некаторыя, кажуць, што быццам па сваёй раскіданасьці, Тодар пры пераезьдзе з аднэй кватэры на другую згубіў сваю дачку. У гэтым сэнсе, нават абвестка вісела некаторы час у доме пісьменьніка.

Але гэта мана.

Дачку Тодар ня згубіў...

І добра зрабіў, бо дачка ў Тодара вельмі слаўная...

У 2 тыдні ад роду яна ўжо клікала Тодара татам і ня пускала з хаты.

Так прынамсі сцьвярджае сам Тодар.

Некаторыя да гэтага дадаюць яшчэ тое, што калі дачцы Тодара споўнілася шэсьць тыдняў і Тодар пачаў быў чытаць свой верш:

Я—не артыста. Я поэт...
Ды й я ня браў такое ролі...

Дачка Тодара глянула на бацьку і на памяць праказала:

— На вочы дымныя тваё
Не праменяю рытмы волі...

Некаторыя таварышы Тодара ня вераць гэтаму сьцьвярджэньню, але гэта мабыць ад зайздрасьці таму што ім,—гэтым таварышам ужо пад сорак гадоў, а пары радкоў зьвязаць у рыхт яны ўсё яшчэ ня могуць.

Пасьля гэтых караценькіх заўваг,—пераходжу непасрэдна да сілуэта Тодара Кляшторнага.

Тодар Кляшторны?

Я, скажу шчыра, баюся,—ці не зрабіў Сэрвантэс плагіят з Тодара, калі пісаў свайго Дон-Кіхота.

Прынамсі, калі-б даць Тодару Кляшторнаму Багуна ў Санчы-Панчы,—шмат млыноў яны-б перамаглі на сваім непераможным шляху.

Першае, чым вылучаецца Тодар ад іншых гэта абсолютнай, непадкупнай шчырасьцю. І ў адказ на гэтую ілгоную шчырасьць і таварышы адносяцца да яго шчыра.

Прынамсі я сам быў сьведкаю, як аднойчы Тодар са ўсёй сваёй шчырасьцю абвінавачваў Сяргея Дарожнага ў тым, што той мае супроць яго нейкія заднія думкі.

У адказ на шчырасьць Тодара, Дарожны паступіў таксама шчыра.

Ён падняў рукамі сваю галаву і паказаў Кляшторнаму.

У галаве сапраўды ніякіх ні задніх ні пярэдніх думак ня было.

Шчырасьць Тодара і на гэты раз перамагла.

Тодар Кляшторны нарадзіўся ў 1903 годзе ў індывідуальным сэктары на Полаччыне. Зараз уся сям'я Тодара ў колгасе, дзе працуе сумленна і бадзёра і бяз усякай роспачы. Гэтую апошнюю якасьць Тодар прыпісвае выключнай сіле сваіх вершаў, якія нават на яго малапісьменных бацькоў робяць гэткі бадзёры ўплыў,—у гэтых адносінах з Тодарам Кляшторным можна згадзіцца напалову, а іменна з тэй першай часткай яго сьцьвярджэньня, дзе Тодар спасылаецца на малапісьменнасьць сваіх чытачоў.

Праз тое, адзначаўшы некаторую роспач у вершах Тодара Кляшторнага, я хочу тут-жа падкрэсьліць, што вершы Тодара натхнёныя і глыбока-эмоцыянальныя. Хто не разьдзяляе са мною гэтага сьцьвярджэньня той на маю думку прызначаны да канца свайго жыцьця захопліваецца вершамі поэты Грышчука.

А гэта цяжкае наказаньне, ня гледзячы на тое, што яно не прадугледжана іспраўіцельным кодэксам нашай Рэспублікі, але я зноў паглыбляюся ў разважаньні, якія іншыя стараюцца абыйсьці, сілуэт зноў зацягваецца, трэба яго як-небудзь канчаць і я стаўлю на гэтым месцы кропку.

Алёша.




Сяброўскі шарж. Мал. Дэвэбені.

ТОДАР КЛЯШТОРНЫ.

**ЯНКА ШАРАХОЎСКІ**

# СОНЦА ПЕСЕНЬ

I

Дні палаюць імкнёнасьцю юных
Вось і я з маладымі ў раду,
У падмурак мастацтва комуны
Сонца-песенны камень кладу.

II

Хвалюе дні ўдарніцтва парыў.
Усё імклівей час
І тэмп жыцьця нястрымней.
Мне сонца песень хтосьці падарыў,
Сонца песень хтосьці падарыў мне.
Узяў у рукі.
Промні сеюць бляск.
Ад акордаў струны запалалі.
І ўжо болей ня стрымаюць нас
Не дарма-ж так прывабляюць далі.
Маяк—соцыялізм
і будаўніцтва сьцяг.
Ў цахох ударных каляруе раньне.
Усё аддаём для новага жыцьця,
Для новых гімнаў, новага змаганьня,
Імклівы час
і тэмп такі нястрымны.
Праз край струменіць
творчых сіл крыніца
І усё шпарчэй у артэрыях краіны
Пульсуе радасьць будаўніцтва.
Усё старое аддаём на злом.
У грудзёх будаўнікоў цьвіце юнацтва сіла.
Правы поэтаў нам жыцьцё дало,
Сонца песень кляса падарыла.
Ступіла сонца на зары парог.
На вуліцах зьнікаюць цені раньня.
І ідуць рабочыя для новых перамог
Для новых тэмпаў, новага змаганьня.

Ў паход за тэхніку!
Самкнём шчыльней рады.
Працоўных трэба нам
Узьняць жыцьцёвы ўзровень.
Напярэдадні
бясклясавае грамады
Справу будаўніцтва абаронім.

Чацьверты год пераступіў парог.
Плян будаўніцтва ўжо амаль што зьдзейсьнен.
І цьвіце над шляхам перамог
У золаце праменьняў сонца песень.

III

Хвалюе дні ўдарніцтва парыў.
Жыцьцё нас вабіць шчодрымі дарамі.
І сонца песень у чырвані гарыць,
Чырвоным зарывам плыве над намі.
Цахі ўрачыста шлюць палём наказ.
Палі пачулі творчы заклік сталі.
І ўжо болей ня стрымаюць нас,
Не дарма-ж так прывабляць далі.
Заўсёды так:
у глыбіню зірні—
І зноў захочаш кінуць краем вока.
Апранута ў дзівосныя агні
Усё тое, што ад нас далёка.
Прагней жаданьні
і нястрымней час,
Калі падмурак
ўжо пабудавалі.
Вось таму і ня стрымаюць нас,
Вось таму і прывабляюць далі.
Дзе боль былы?
І дзе гады старыя?—
Даўно сустрэлі новую зару.
І на сініх крыльлях індустрыі
У будучнасьць імчыцца Беларусь.
Вакол палеткі.
Сіні небасхіл.
Клёны горда голавы схілілі.
І кладуцца на дарожны пыл
Сіняй ценьню пройдзеныя мілі.
Адданы да канца
Сям'і працоўнай сын.
Вучыла беднасьць
браць жыцьцё за грудзі.
А хто вакрывіць з новых пуцявін,
Той сам сябе на нябыцьцё асудзіць.
Усё варожае
на сьмерць і на руіны...
Такі закон жыцьця і будаўніцтва.
Ў артэрыях адноўленай краіны
Нястрымна звоніць
творчых сіл крыніца.
Гляджу наўкол—
знаёмае сяло
Зьмянілася ад вуліц да ваколіц.
І поле дымнае колгасам загуло,
Уздым супольнасьці раджае тэмпы ў полі.
О, поле, поле!
Як зірнеш наўсьцяж,
Дык сэрца ўдвойчы спавівае мужнасьць.
І здаецца ў гэты шчасны час
Я-б на сьвеце ўсіх-бы перадужыў.
Усё патанула
ў колерах зары!
На працу йдуць колгасьнікі-паўстанцы.
І выходзяць ў поле трактары
З сьвітальнай шэрані
машынных станцый.
За кожным трактарам
бягуць трывожна цені,
За кожным трактарам
шырокі чорны пуць.
І цьвітуць вясёлкі лутуценьняў
І лятуценна яблыні цьвітуць.
Ціха, ціха шалясьцяць пялёсткі...
Льлецца ў далі белы вадаспад.
О, Беларусь!
І ты ўбачыш росквіт,
Як зацьвіце індустрыяльны сад.
Вядзе нас партыя
і палымнее сьцяг,
І радасьць хваляй падмывае грудзі.
Усё аддамо для новага жыцьця
Якое ёсьць, а яшчэ болей будзе.

Растуць рэспублікі.
Ўжо многа збудавалі.
Плян Пяцігадовы ўжо амаль што зьдзейсьнен,
Бурліць жыцьцё
і палымнеюць далі
У золаце праменьняў
сонца песень.



# Дзяржаўная Бібліотэка Беларусі





ЧЫТАЛЬНАЯ ЗАЛЯ

У дзень сьвяткаваньня 14 гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі адбылося ўрачыстае адчыненьне новага будынку Дзяржаўнай бібліотэкі Беларусі. Організаваная пасьля вызваленьня ад белапольскай окупацыі ў 1921 г., як бібліотэка Бел. дзярж. унівэрсытэту яна да 10 гадавіны свайго існаваньня вырасла ў буйную навуковую ўстанову з мільёнfamным кніжным фондам. Новы будынак дае магчымасьць значна разгарнуць і пашырыць функцыі бібліотэкі, організаваць новыя аддзелы.

У змаганьні за ажыцьцяўленьне лёзунгу т. Сталіна, аб масавым аўладаньні тэхнікай організаваны аддзел і чытальня тэхнікі. Ён ставіць сабе на мэце абслужыць чытача спэцыяльнай літаратурай, дапамагчы прамысловасьці бібліографічнымі і інформацыйнымі зьвесткамі і інш.

Карыстаньне кнігамі па іншых навуковых галінах адбываецца праз агульную чытальню. Неўзабаве будзе закончана спэцыяльнае прыстасаванае для яе памяшканьне, якое зможа ўмясьціць да 600 чытачоў. Разам з іншымі чытальнымі і спэцыяльнымі габінэтамі яна зможа прапусьціць да $1^1/_2$ тыс. чытачоў на дзень.

Замест аднаго абавязковага паасобніка ўсёй літаратуры, якая выдаецца ў СССР са студзеня гэтага году бібліотэка атрымлівае два паасобнікі. Гэта дасьць магчымасьць організаваць міжбібліотэчны абонемэнт для прасоуваньня на пэрыфэрыю праз бібліотэкі БССР літаратуры па спэцыяльных пытаньнях (у часовае карыстаньне).

Выстаўка новых атрыманьняў і чытальня пры ёй набліжае кнігу да чытача і дае магчымасьць перадаваць на выстаўку для карыстаньня кнігі на другі-ж дзень пасьля іх атрыманьня. Для прыцягненьня працоўнага чытача да аўладаньня навуковаю кнігаю мяркуецца організаваць аддзел масавай працы з сталымі тэматычнымі выстаўкамі і консультацыяй.

Спэцыяльныя аддзелы бібліотэкі: аддзел савецкага будаўніцтва, які абслугоўвае дзяржаўныя ўстановы даведкамі і навуковымі матэрыяламі па ўсіх галінах савецкага будаўніцтва; аддзел беларусазнаўства з габінэтам Заходняй Беларусі, які дапамагае як навуковай кнігай, так і бібліографічнымі даведкамі ўстановам і асобным чытачам, якія працуюць па розных пытаньнях беларусазнаўства; яўрэйскі і польскі аддзелы.

Пры бібліотэцы існуе Беларуская Кніжная Палата, якая атрымлівае ад усіх друкарняў БССР увесь друкаваны матэрыял і рассылае яго па буйных бібліотэках СССР, а таксама выдае штомесячны бюлетэнь „Летапіс беларускага друку“.

ФОТО ГЭ-ГУРВІЧА



АДДЗЕЛ ТЭХНІКІ



АГУЛЬНЫ ВЫГЛЯД

**А. Н. ЛЯСНЫ**

# Канюх Казыра

Пракопу Казыру чамусьці ня спалася. Розныя думкі набягалі ў галаву, кружыліся, што сьнегавая мяцеліца на дварэ. Ён ляжучы на пасьцелі час ад часу паглядаў у вакно. За чымсьці сачыў і потым устаўшы пачаў апранацца.

— Чаго Пракопка, так рана ўскрущіўся?—падняўшы галову ласкава запыталася жонка.

— Ды нічога... так сабе,—нехаця адказаў ён. Было яшчэ цёмна. Гадзіньнік толькі што прабіў чатыры. За вакном страшэнным голасам гудзела, напявала мяцеліца. Вецер парывам. задзіраў сьнег і з разгону біў у вакно.

І дужа-ж ня хочацца ў такія ночы выходзіць на двор. Але Пракопу гэта ня ў першы раз. Ён ужо добра ведае гэту мяцеліцу, вывучыў яе.

Яшчэ раз глянуўшы ў вакно, Пракоп сьцягнуў з печы цёплы кажух і вышаў на ганак. Бушавала мяцеліца, з-за яе нічога ня было відаць.

Тады Пракоп узяўшы свайго вернага падарожніка—фанар „Лятучая мыш“, накіраваўся да канюшні.

* * *

Казыра Пракоп з малых год быў батраком. Шмат гора прышлося перанесьці Пракопу ў гады свайго юнацтва. Была марозная зіма. Тады ня толькі Пракоп сядзеў босы і голы і мёрз на холадзе. Такіх было шмат—усе батракі.

Аднойчы панскі пргаяняты загадаў Пракопу насіць цабры з хаты ў скотныя хлявы.

— Мне тады было толькі 10 год,—прыпамінаючы гаворыць тав. Казыра.—Босыя, у аднэй кашулі, па росту роўны з цэбрам, я ня мог яго зварушыць з месца. Таптаўся каля яго, што куранё каля курыцы. Мёрзлі босыя ногі. Тады эканом з усёй злосьцю моцна перапярэчыў мёрзлым бізуном па сьпіне.

Больш ён нічога не памятаў. Нібы труп паўзьмерзлага Пракопа бацька прынёс у хату.

Гэта толькі ўспаміны. Успаміны, якія калісьці былі горкімі фактамі батрацкага жыцьця.

Зараз Пракоп Казыра—калгасьнік калгасу „Чырвоная Зорка“. Ён першы ўступіў у гэты калгас.

Тады іх было толькі трынаццаць. Трынаццаць былых батракоў у 1922 г. пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, арганізавалі першы ў Барысаўскім раёне калгас „Чырвоная Зорка“ на месцы былога панскага маёнтку.

Казыра—стары калгасьнік. Казыра лепшы ўдарнік-канюх канягадоўчай фэрмы калгасу.

* * *

У калгасе „Чырвоная Зорка“ налічваецца 91 конь і 1 парадзісты вытворнік.

Канюшня зьяўляецца ўдарным цэхам калгасу. Тут шмат чаму можна навучыцца. Можна навучыцца, як правільна даглядаць коні, як трэба змагацца за моцнага калгаснага каня.

Тут конюхі—гонар калгасьнікаў.

Казыра Пракоп даглядае 18 коняй. Восемнаццаць коняй, якіх ён за пяць год добра вывучыў. Не дарма любяць яго коні, прывыклі да Пракопа, што дзеці да роднай маткі.

Яны ня змучаны, заўжды напоены, накормлены, дагледжаны. У сваёй канюшні Казыра праводзіць дзень і ноч.

І сёньня, да досьвітку Казыра пасьля трывожных думак, якія яму не давалі спаць, надумаў праверыць коняй.

З вечару захварэла на ногу „Варaная“.

— Што тут магло здарыцца... здаецца калі прынімаў ад Цімоха, дык яна была здаровая,—падумаў Пракоп.

„Варaная“ стаяла падняўшы правую заднюю нагу. Пракоп паставіў блізка спадарожніка—„Лятучую мыш“ і пачаў сьвяціць, прыглядацца да нагі „Варaной“.

Нічога не заўважыў. Толькі пры малейшым датканьні да капыта „Варaная“ топала нагой, стагнала.

Хвароба была простая. Падкова ўрэзаўшыся ў капыт „Варaной“ не давала магчымасьці ступіць ёй на зямлю нагой.

Сакрэт хваробы „Варaной“ быў у тым, што каваль Сымон дрэнна падкаваў яе.

І калі Казыра своечасова заўважыў і спыніў разьвіцьці хваробы, „Варaная“ зноў пачала выбрыкваць па двару.

* * *

Ужо 2 месяцы, як канчаткова ў канюшнях калгасу „Чырвоная Зорка“ ліквідавана абязьлічка, коні прымацаваны да адпаведных брыгад, канюхоў.

Кармленьне праходзіць па строга вызначаных нормах і па выпрацаванаму распарадку.

У зьвязку з падрыхтоўкай да веснавой сельскагаспадарчай кампаніі, калгас разгарнуў шырокую падрыхтоўку і цягавай сілы да сяўбы.

Збруя прымацавана да кожнага каня, канюха і брыгады.

Ужо адрамантавана і пашыта 25 новых хамутоў, 50 супоняй, 40 падпінкаў і г. д.

Да вясны да кожнай пары коняй будуць прымацаваны сельскагаспадарчыя машыны, інвэнтар і гужавы транспарт.

Канюшня калгасу ацеплена. Кормам коні да вясны таксама цалкам забясьпечаны.

Калгас на аснове ажыцьцяўленьня шасьці ўмоў тав. Сталіна па-бальшавіцку сустракае веснавую сельскагаспадарчую кампанію.

Здаровы конь калгасу „Чырвоная Зорка“ зьяўляецца магутным сродкам барацьбы за моцны калгас.



# БРЫГАДЗІРША

Яе гады сагнулі ў крук,
На твар адзнакі палажылі,
І, нібы дрот, на пальцах друк
Ляглі пакручаныя жылы.

А ў сэрцы—пеніцца запал
Ды незгасаючая радасьць:—
Сягоньня выйшла лён трапаць
Яе ўдарная брыгада.

Маланкай лётае трапло,
Кайстра мяцеліцаю валіць,
Ахапкі радасныя слоў
Лятуць у сьнежныя аддалі...

Трапалі рупна да цямна,
А выплыў месячык бліскучы,
Дык брыгадзірша, ужо адна
Складала лён гатовы ў кучы...

І раніцай, калі з ялін,
Спадаў на дол бялявы іней,
Ужо калгасьнікі вязьлі
Вазы ільну здаваць краіне.

**Рыгор Канавалаў**

1932 год, калгас „Пабеда“.

ФОТО З КІНО-ХРОНІКІ БДК







Ударнік-трактарыст Нарубаў, узнагароджаны пачэснай граматай.





Падрыхтоўка да вясновай сяўбы. Рамонт сельскагаспадарчых машын.

Фото з кіно-хронікі БДК.



Новарасійскі порт механізаваны. Новыя дэмагі выгружаюць з парахода фабрычна-заводзкае абсталяваньне і с.-г. машыны.



У нацыянальных вобласьцях ідзе магутнае прамысловае будаўніцтва.

У Осэтыі скончана пабудова другога па вялічыне ў сьвеце Бесланаўскага кукуруза-крахмальна-патачнага комбінату.

# ЭКОНОМІЧНЫ КРЫЗІС У КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ КРАІНАХ ПАГЛЫБЛЯЕЦЦА

Сельская гаспадарка САЗШ, як і іншыя галіны, ахоплена над. звычайна жорсткім крызісам. У многіх выпадках фэрмеры пакідалі ўраджай у полі з-за немагчымасьці яго прадаць па цане, якая-б пакрывала вытворчыя выдаткі. І гэта ў той час, калі ў САЗШ маюцца мільёны галодных беспрацоўных. Яркім паказчыкам крызісу сельскай гаспадаркі САЗШ зьяўляецца тое, што ў неабсяжных стэпах штатаў Канзас, Арканзас, Паўднёвай і Паўночнай Дакоты можна сустрэць кінутыя трактары і іншыя сельскагаспадарчыя машыны.



**На здымку: трактар кінуты ў полі.**




У тыдзень Ленін-Люксэмбург-Лібкнехт у Бэрліне адбыўся рад дэманстрацый да могілак Лібкнэхта-Люксэмбург.



**На здымку: Дэманстрацыя ідзе да могілак у Фрыдрыхсьфільдзе, дзе пахаваны Лібкнэхт і Люксэмбург.**

У сьнежні мінулага году ў Бэрліне закрыўся адзін з самых старых і магутных паравоза-машынабудаўнічых заводаў—завод Борзіг. Уласьнік гэтага заводу зьяўляецца адным з самых злосных ворагаў рабочага руху. Крах гэтага заводу зьяўляецца яркім паказчыкам таго, як далёка зайшоў сусьветны экономічны крызіс.

З разгортваньнем і паглыбленьнем крызісу ўзмацняецца і клясавае змаганьне. Буржуазія спрабуе спыніць нарастаючую рэволюцыйную хвалю тэрорыстычнымі сродкамі. Фашысты арганізуюць напады на рабочыя пасёлкі і жорстка распраўляюцца з рэволюцыйнымі рабочымі. Так у бэрлінскім прадмесьці Фельзэнэк фашысты ноччу напалі на рабочы пасёлак і забілі рабочага Клембке.



**На здымку: Рабочы пасёлак, на які зрабілі напад фашысты. У доміку прад якім стаяць людзі быў забіт рабочы Клембке.**

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ШАХМАТЫ № 2(12)

Над рэдакцыяй Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА

### Задача № 29



Дэвіз „1862“

Мат у 2 хады

### Задача № 30



Дэвіз „Справа гонару“

Мат у 2 хады

### Задача № 31



Дэвіз „Прожэктар“

Мат у 2 хады

## Узмацняем інтэрнацыянальную сувязь

У пачатку лютага распачынаюцца тэлеграфны матч паміж Менскам і Золінгенам (Нямеччына) і матч па перапісцы з Брэслаўлем.

Адначасова з ходам матчаў, устанаўліваецца цесная сувязь шляхам перапіскі паміж менскай шахматнай арганізацыяй і рабочымі шахматнымі арганізацыямі Золінгена і Брэслаўля.

Асноўная задача гэтай перапіскі — знаёміўшы рабочых-шахматыстаў Золінгена і Брэслаўля, а праз іх і ўсіх рабочых з сапраўдным становішчам Савецкага саюзу, з экономічным становішчам рабочае клясы ў нас, з ходам завяршэньня першай пяцігодкі і плянамі другой— выхоўваць клясавую сьвядомасьць рабочых.

Матчы будуць мець вялізарнейшае значэньне як у справе інтэрнацыянальнага выхаваньня, так і для папулярызацыі шахмат сярод працоўных Савецкай Беларусі.

Ад Менску ў матчы з Золінгенам будуць іграць усе мацнейшыя шахматысты, з Брэслаўлем команда ў складзе: 1. Мазэль, 2. Касьперскі, 3. Верасаў, 4. Шукевіч - Трацьцякоў, 5. Насьцюшонак, 6. Майзэль Ю., 7. Майзэль Л., 8. Кейлес, 9. Камянецкі і 10. Жыдкевіч.

На V Усебеларускі шахматна-шашачны зьезд, які адбудзецца з 25 сакавіка па 10 красавіка, прыедзе команда рабочых-шахматыстых Брэслаўля. Тады мы з'іграем матч за дошкай.

Нам-жа патрэбна выкарыстаць інтарэс, які выклікаюць матчы, для стварэньня масавага прыліву рабочых у шахматна-шашачныя гурткі.

---

**Ніжэй мы зьмяшчаем партыю граную ў грандыёзным матчы па телеграфу Ленінград — Эўропа ў 1931 г.**

### Партыя № 3

| Ленінград (Дынамо) | Копенгаген (Данія) (Рабочы клюб) |
|---|---|
| 1. d2—d4 | d7—d5 |
| 2. c2—c4 | e7—e6 |
| 3. Kb1—c3 | Kg8—f6 |
| 4. Cc1—g5 | Kb8—d7 |
| 5. e2—e3 | c7—c6 |
| 6. Kg1—f3 | Фd8—a5 |

Гэты варыянт фэрзевага гамбіта завецца „кембрыдж-спрингскай защитой“.

| | |
|---|---|
| 7. Cg5 : f6 | Kd7 : f6 |
| 8. Cf1—d3 | Cf8—b4 |
| 9. Фd1—b3 | . . . . . |

Лепш чым Фd1—c2, пасьля чаго чорныя 9. . . . c6—c5 аслабаняюць ігру.

| | |
|---|---|
| 9. . . . . . | d5 : c4 |
| 10. Cd3 : c4 | Kfb—d5 |

Незразумела для чаго...

Для таго, каб белыя маглі атрымаць лепшую ігру

| | |
|---|---|
| 11. Лa1—c1 | 0—0 |
| 12. 0—0 | Cb4 : c3 |
| 13. b2 : c3 | Kd5—b6 |
| 14. Cc4—d3 | c6—c5? |

Становішча чорных становіцца незавідным. Аслабаняючы манэўр 13. . . Kb6 і 14. . . . c5 прыводзіць да таго, што фэрзь запіраецца сваімі-ж фігурамі на фэрзевым флянгу і ня можа ў патрэбны момант быць перакінут для абароны караля.

| | |
|---|---|
| 15. Kf3—e5 | f7—f6? |

Пасьля гэтай памылкі белыя атрымоўваюць магчымасьць правесьці бліскучую, комбінацыю. Лепш было простае

| | |
|---|---|
| 16. Фb3—b1! | . . . . |

Далёка разьлічаная ахвяра, зусім разбураючая каралеўскі флянг чорных. Вельмі прыгожы скачок фэрзя!

Чорныя прымушаны прыняць ахвяру.

| | |
|---|---|
| 16. . . . . . | f6 : e5 |
| 17. Cd3 : h7 + | Kpg8—h8 |
| 18. Фb1—e4 | . . . . . . |

Яшчэ мацней было 18. Cg6 !!, пагражаючы Фb1 — e4 — h4 +, пасьля чаго выйграць справа тэхнікі.

| | |
|---|---|
| 18. . . . . . | Лf8—f6 |
| 19. Ch7—g6 | Лf6 : g6 |

Чорныя пазбаўляюцца назойлівага сланя, але ня бачаць, альбо недаацэньваюць наступных ходаў белых.

| | |
|---|---|
| 20. Фe4 : g6 | Cc8—d7 |
| 21. f2—f4 ! | . . . . . |

Пагроза белых Лf1—f3—h3 вельмі няпрыемна.

| | |
|---|---|
| 21. . . . . | e5—e4 |
| 22. f4—f5! | e6 : f5 |
| 23. Фg6—f7 !! | . . . . |

Ціхі ход! але колькі пагроз, ад якіх чорныя... ня маюць абароны. Далейшая барацьба не патрабуе заўваг.

23. . . . . Фa5—a3; 24. Лc1—c2, c5 : d4;

25. Лf1—f4, g7 — g5; 26. Фf7 — h5, Kph8—g7;

27. Фh5 : g5 +, Kpg7—f7; 28. Лf4—h4, d4 : e3;

29. Лh4—h7 +, Kpf7—e6; 30. c3—c4, e3—e2;

і белыя абвясьцілі мат у 9 (!) ходаў:

31. Лh7—h6 +, Kpe6—e5; 32. Фg5—g7, Kpe5—f4;

33. Лh6—h4 +, Kpf4—e3; 34. Лc2—c3+, Kpe3—d2;

35. Фg7—d4 +, Kpd2—e1; 36. Лc3—c2!, Фa3—d3;

37. Фd4—a1 +, Фd3—d1; 38. Фa1—c3+, Фd1—d2;

39. Фc3 : d2 ×!

Вельмі цікавая партыя.

## Разьвязаньні шахм. задач

### Задача № 11. Дэвіз „Магнэс“

(з чор. Сл. на c7, замест пешкі)

1. Фc8—e6! пагражае 2. Фe4—c4 × : з першага погляду, у чорных няма чым абараніцца, і навошта такое нагрмаджэньне чорных і белых фігур на фэрзевым фланге.

Аднак, аказваецца, у чорных ёсьць цікавыя хады, пасьля якіх выкананьне пагрозы белых немагчыма, толькі па аднэй прычыне: бо на матуючым ходзе самазьвязаная чорная фігура разьвяжацца матуючай белай, а ад гэтага мала радасьці белым.

Таму на:

1. . . . . Фf5 : e5 ! 2. Лf6—f4 ×!

1. . . . . Kg6 : e5 ! 2. Лg8—g4 × !

1. . . . . Cc7 : e5! 2. Kf7—d6 × !

Цікавая задача!

### Задача № 12. Дэвіз „Кляпан“

1. Лd7—e7 пагроза 2. Фd5—e4 ×.

1. . . . . Kc4—d2, 2. Kd1—e3 ×.

1. . . . . Kc4—e3, 2. Лe2—f2 ×.

1. . . . . Kc4—b6, 2. Kb5—d6 ×.

1. . . . . Kc4—d6, 2. Ce8—d7 ×.

1. . . . . Kc4—b2, 2. Kb5—d4 ×.

Усе гэта ня дрэнна, але як паведаміў Л. Гугэль (Масква) становішча чорных пешак не магло атрымацца, так што задача на вялікі жаль з конкурсу выключаецца.

# ДА ВЕСНАВОЙ ПАСЕЎНАЙ КАМПАНІІ 1932 ГОДУ

## ЛІТАРАТУРА ПА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАМУ СЭКТАРУ

**СЕЛЬГАССЭКТАР ДВБ**






**СЕЛЬГАССЭКТАР ДВБ**

1. Лейвікаў. — Веснавое разводзьдзе і яго значэньне для сенажаці.
2. Зборнік. — Даведнік па канягадоўлі.
3. Зборнік. — Трактарная 24-дыскавая сявялка.
4. Волкаў. — Саўгасы—школа колгасаў.
5. Навіцкая. — Карысныя і шкодныя жывёлы ў сельскай гаспадарцы.
6. Скарупскі.—Памятка трактарыста-рулявога.
7. Галадаў. — Шкоднікі лёну і змаганьне з імі.
8. Дарогін.—Хваробы сельскагаспадарчых расьлін.
9. Букбарт. — Хаваньне малака і догляд за ім.
10. Сяргееў. — Малако.
11. Пратасеня. — Кіслотнасьць глеб Меншчыны.
12. Зардамскі. — Як павысіць удойнасьць кароў.
13. Лубоўскі. — Забясьпечым колгасы і саўгасы кармамі.
14. Гурын. — Асновы вэтэрынарыі.
15. Нурынаў. — Социялістычная фабрыка малака, масла і сыру.
16. Сьмірноў. — Выраб сланэчніка на сілос.
17. Александраў — Сап у жывёлы і ў чалавека.
18. Мяжэвіч. — Крок у будучыню.
19. Арлоўскі. — Як складаць кармовыя рацыёны для малочных кароў.
20. Зборнік. — Дырэктывы партыі і ўраду аб разьвіцьці соцыялістычнай жывёлагадоўлі.
21. Зборнік. — Дырэктывы партыі і ўраду па організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў.
22. Круглоў. — Выканаем пляны па соцыялістычнай жывёлагадоўлі.
23. Бэрзін. — Культура канапель у БССР.
24. Адстаеў. — Памятка разьяздного мэханіка.
25. Круглоў. — Ахова здароўя сельскагаспадарчых жывёл.
26. Кудзінаў. — Колгас „Новы шлях“.
27. Бэсарабскі. — Памятка культармейца.
28. Драздоў. — Культуры для сілосу.
29. Фралоў. — Паліва для трактараў.
30. Пешкін. — Савецкае машынабудаўніцтва.
31. Антонаў. — Збожжавая радковая сявялка.
32. Тупяневіч. — Веснавыя работы ў садзе і гародзе.
33. Маркавец. — Што павінна ведаць ячэйка Асоавіяхэму ў барацьбе са шкоднікамі.
34. Захарэнка. — Абсталяваньне скотных двароў.
35. Арлоў. — Хвароба цялят.

**Кнігі прадаюцца ва ўсіх кнігарнях Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі, спажыўкоопэрацыі і Саюздруку.**

**Калі ў кнігарні ня будзе якіх-небудзь кніжак, дык шліце заказ „Кніга-поштай“ па адрасу: Менск, Рог Савецкай і Ленінскай. Філіал ДВБ.**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 457. 3000 экз. Галоўлітбел № 1031.